

# ПАРНАС „ДВ"

«Апакаліпсіс душы» — так назваў свой вянок вянкоў санетаў (дарэчы, першы ў беларускай літаратуры) Змітрок Марозаў. Неўзабаве гэты маштабны твор з'явіцца ў свет асобнай кнігай.

З адным з вянкоў нашы чытачы ўжо мелі магчымасць пазнаёміцца («ДВ», 1 кастрычніка 1991 г.). Сёння мы прадстаўляем на іх суд яшчэ адзін вянок санетаў маладога паэта.

**Змітрок МАРОЗАЎ**

## ДЗЯЛЬБА

### ВЯНОК САНЕТАЎ

1

Як акіян, хвалюецца народ,
Кіпяць усюды страсці ракавыя.
І разявае злыдзень прагны рот
На нашых продкаў землі векавыя.

Саўдэпутат набыў сабе завод,
Яго канёк — прыватная стыхія.
І раздзіраюць спрэчкі кожны род,
Дзядоў магілы зноў клянуць жывыя.

Навошта косці мёртвых варушыць?
Былую Веру зможа адрадзіць
Насенне праўды мудрае, жывое!

Для шчасця Творца нас, відаць, ствараў,
Ды чалавек быць Богам пажадаў —
Няма ні ладу ў свеце, ні спакою.

2

Няма ні ладу ў свеце, ні спакою,
Бы чалавецтвам правіць Д'яблаў дух.
Замест таго, каб жыць адной сям'ёю,
Мы і паветра дзелім, і ваду.

І гэтай злой, няправеднай дзяльбою
Мы набліжаем новую бяду,
Даруй, унук, калі сваёй рукою
Я ад цябе агонь не адвяду.

Крывавы колер ён ад веку мае,
Усё жывое на зямлі знішчае.
Няўжо біблейскі збудзецца Зыход?

І дзень і ноч страсцей бунтуе мора.
І цёмна мне, хоць шмат на небе зорак...
Куды плыве дзяржавы параход?

3

Куды плыве дзяржавы параход?
Дзе ж тая гавань шчасця незямнога?
Як мы жылі без веры столькі год,
Зрабіўшы Богам Ідала сляпога?

Ён прапалоў мой дужы радавод —
З крывёю вырваў кожнага другога...
Ды сёння зноў з застойных тых балот,
Яго на свет выштурхвае эпоха.

Няўжо ён будзе душы рабаваць?
Імкнуся праўду горкую пазнаць
Што ўчора называлася маною.

Калі паўзла навала з-за мяжы,
Мы не здалі Радзімы рубяжы...
Што будзе заўтра з ім, з табой, са мною?

4

Што будзе заўтра з ім, з табой, са мною?
Над тым пакутна думае прарок...
Прароцтвы ж пахнуць Ладанам застою,
Што прытупляе розум, слых і зрок.

І брат на брата зноў ідзе з вайною,
Хоць быў не раз ужо падобны ўрок...
І кроў ліецца цёплаю ракою,
Глыбей за мора гора мацярок.

Дзесь у гарах арліных Карабаха
Паклаў равеснік мой жыццё на плаху,
Каб заглушыць драпежны кулямёт...

Яго імя сягоння носіць школа,
Ды не аб ім спявае бард вясёлы...
Дзяруць чубы заканадаўцы мод.

5

Дзяруць чубы заканадаўцы мод,
Балбатуны і псеўдадэмакраты.
І для сябе пякуць блінцы выгод
На залатой патэльні апарата.

А селянін не ведае выгод
Апроч адной — рабіць, нібы пракляты,
Не чуе гімнаў ён, хвалебных од,
Перад уладай вечна вінаваты.

Ён разагнуцца хоча, ды яму
Ужо рыхтуюць фермерскі хамут
І лейцы з пужкай імпартнай, чужою.

«Народныя заступнікі» не спяць,
Надзейна ў крэслах цёпленькіх сядзяць,
Багацце, славу дзеляць між сабою.

6

Багацце, славу дзеляць між сабою
Магнаты свету, скарбаў каралі...
Багдад слязьмі заліты і крывёю,
Няма яўрэю месца на зямлі.

Зноў Індыя ахоплена журбою...
Планета здрыганулася, калі
Над Гімалайскай сіняю градою
Індзіры прах нябёсам аддалі.

У Лету кануць Бушы і Садамы.
І будуць толькі Евы і Адамы,
Каханне, райскі забаронны плод.

І дзеці, дзеці, дзеці — промні шчасця...
Яшчэ ад нас хмурыны сонца засцяць,
Але ўзламаны волі рабскай лёд.

7

Але ўзламаны волі рабскай лёд,
Ірвуць народы путы залатыя,
Зямной вясны вітаючы прыход,
Гараць імпэтам сэрцы маладыя.

Хай жа яны не ведаюць бядот,
Не памінаюць ліхам дні былыя,
І мо натхнення творчага палёт
Заручыць песняй душы трапяткія.

Не для дзяльбы і жорсткай барацьбы —
Яна ўсіх нас кліча да сяўбы!
Яшчэ сляпой спавіты varажбою,
Ірву ідэй аджыўшых кайданы.
Гудуць на храмах праведна званы,
Надзеі зорка свеціць над зямлёю.

8

Надзеі зорка свеціць над зямлёю
Для ўсіх яе сумленных жыхароў,
Ды сее Час-Ліхвяр насенне злое
У інфальтыльных душах юнакоў.

Сяброўкі іх прадажнаю гурмою
Пасуцца ля фірмовых устаноў,
Для іх мараль—абстракцыя, пустое,
А секс—аснова ўсіх зямных высноў.

На прыгажунь растуць жывыя цэны,
Спяшаюцца ў Расію бізнесмены,
Духоўны давяршаючы разбой.

З усмешкай іранічнаю Мадонна
З былога пазірае задумёнэна,
Як многа недасказанага ў ёй.

9

Як многа недасказанага ў ёй,
У той, што ўсмешкай дзіўнай асляпіла...
Я п'ю кахання зваблівы настой,
Што на купальскіх зёлках ты зварыла.

Пачую непаўторны голас твой
І адчуваю казачныя сілы,
Здаецца, вырастаюць за спіной,
Нібы ў Ікара, сына зорак, крылы.

Шкадую тых, хто здрадзіў пачуццю,
Прадаў душу сляпому набыццю,
Шукаючы ў багацці спатalення.

Ды Вера на крыві стаіць густой,
На поце папярэдніх пакаленняў,
Што не спасцігнуць сэрцам і душой.

10

Што не спасцігнуць сэрцам і душой,
Ніякі Геній выказаць не зможа...
Паперы аркуш слепіць белізной,
Нібыта ўранні першая пароша.

Але вярэдзіць сэрца думак рой,
Гняце яго страсцей цяжкая ноша,
І вось, не саўладаўшы з нематой,
Радок маланкай бліснуў гэтак гожа.

Пачуццяў навальніца, гукаў дождж,
Вулкан імпэту вольнага!.. І ўсё ж
Ёсць у шматслоўі слодыч і атрута.

На ўсім ляжыць грахоў людскіх пячаць.
Парвалі мы няволі рабскай путы,
А Перуны над намі зноў грымяць.

11

А Перуны над намі зноў грымяць.
Няўжо свабоды гэткай мы хацелі?
Замест таго каб лепшы лад ствараць,
Набыткі пакаленняў прагна дзелім.

Наўкол такія лозунгі гучаць—
Ажно мурашкі бегаюць па целе:
«Забіць! Павесіць! Знішчыць! Расстраляць!»..
Здаецца часам — людзі звар'яцелі!

Але зацьменне Розуму міне.
Краіну новы Пётр ускалыхне,
Нібы раку вясновы крыгаход...

Амерыканец, немец і француз
Убачыць іншы велічны Саюз,
Загартаваны ў полымі нягод.

12

Загартаваны ў полымі нягод,
Не прадаю душу сваю за цэнты.
І не прымаю сэрцам тых свабод,
Што па Указу дораць прэзідэнты.

Маё жыццё не цукар і не мёд:
Раблю, як вол. Жыву ж век на працэнты.
Савецкі нэпман, як апошні жмот,
Дзярэ з мяне са шкурай дывідэнты.

Ды не забыў навукі я дзядоў,
Якія стрэслі з рук і плеч паноў —
Ці ж мне прад імі крукам горб згінаць?

Па радаводу — Сейбіт і Салдат,
Хачу, каб край квітнеў, як майскі сад,
Жадаю сеяць, а не забіваць.

13

Жадаю сеяць, а не забіваць,
Пісаць паэмы, вершы пра каханне,
Малых дзяцей у люльцы забаўляць,
Выслухваць іх шчаслівае гуканне.

Адзіную жанчыну цалаваць,
Казаць ёй трошкі смешныя прызнанні,
А ў час разлукі верыць і чакаць
Спякотнага, як жніўны дзень, спаткання.

На жаль, не ўсё залежыць ад мяне.
Хтось у раёк свой едзе на мане,
Хоць мае сэрца золкае, як лёд.

Да болю прывучае нас экран.
Разгорнеш найсучаснейшы раман:
Зноў кроў цячэ, на жыта—недарод.

14

Зноў кроў цячэ. На жыта—недарод.
Вякоў мінулых лопаюцца звенні,
Ды чую Часу светлага прыход,
Які нясе народам азарэнне.

І хоць трывожней будняў калаўрот,
Разумным сэнсам поўняцца імгненні,
Не пойдзе поле жытняе на звод,
Пакуль я сею ў ім дабра насенне.

Хай люты град калоссе не паб'е,
Няхай прастору, сонейка стае
Жытам, што коцяць хвалі на прыволлі.

За небасхіл, да воблачных чарод...
Адчуўшы неўтаймоўны вецер волі,
Як акіян, хвалюецца народ.

15

Як акіян, хвалюецца народ,
Няма ні ладу ў свеце, ні спакою.
Куды плыве дзяржавы параход?
Што будзе заўтра з ім, з табой, са мною?

Дзяруць чубы заканадаўцы мод —
Багацце, славу дзеляць між сабою,
Але ўзламаны волі рабскай лёд,
Надзеі зорка свеціць над зямлёю.

Як многа недасказанага ў ёй,
Што не спасцігнуць сэрцам і душой.
А Перуны над намі зноў грымяць.

Загартаваны ў полымі нягод,
Жадаю сеяць, а не забіваць...
Зноў кроў цячэ. На жыта недарод.

**Владимир БОРИСЕНКО**

## ЛЮБИТ—НЕ ЛЮБИТ

**Падала ромашкою звезда,**
**Мы тянули руки ей навстречу.**
**Через много лет себе замечу:**
**Оба не любили мы тогда.**

**Вспоминаю, как всё это было:**
**Впопыхах на Землю собираясь,**
**Не надеясь, не греша, не каясь,**
**«Любит»-лепесток Звезда забыла...**

***

**В краю, где поднимают высоко**
**Стенания и розничные цены,**
**Не собирайся слишком далеко:**
**Уже воздвигли камерные стены.**

**Тебя их тень преследует во всём,**
**И страх от них идет монументальный,**
**Ты, как Христос, прибитый к ним гвоздем,**
**Не в силах разделить пирог пасхальный.**

**Осколки веры падают на пол,**
**Как дед Лука — на поле разоренья,**
**Которое нас садит всех на кол**
**Без жалости и совести зазренья.**

***

**Взволнован лес — буран поднялся вдруг.**
**Согнув под снежной ношей ветви, ели**
**Образовали хором тесный круг,**
**Прикрыв собой березку от метели.**

**Здесь в сорок третьем раненый герой**
**В последний раз долг выполнил свой свято.**
**...Стоит березка — памятник живой —**
**Склонясь над ним, как мать того солдата...**

***

Ну что ж, хорошо, что все плохо.
Напрасно я жизнь торопил
И шел от чужого истока,
В чужие истоки входил.
Теперь нет у жизни ни смысла,
Ни цели, ни теплоты.
И тянется дым коромыслом
До боли, до тошноты...

***

А бывает, что вечером поздним
Возвращаюсь с учебы я —
И на небе, черном и звездном,
Очень черном, как в саже труба,
Различаю знакомые звезды,
По которым тоскует земля,
И тоска превращается в слезы,
Выступая на срезе ствола.
А потом превращается в росы,
Выпадая на листья травы,
И вплетается в девичьи косы,
И пульсирует взором совы.

**Алексей ЛОМТЕВ**

***

Не хочу —
Не заставишь.
Я лечу —
Представляешь?!
Не пророчь —
Я сам знаю.
Превозмочь? —
Не желаю.
Будь как есть,
Будь что будет.
В поезд сесть —
И забудешь
Все ненужные ссоры,
Словно ветра порывы.
И Бог с ними.
Мчи, скорый.
И мелькают равнины,
Овраги, обрывы,
Обрывы...

Фота В. КРАЎЧУКА.

**Алесь ДУБРОЎСКІ**

***

Сцюдзёна сёння.
Маладзік
У кропцы верхняе, здаецца,
Прымёрз зусім, або за цвік
Так зачапіўся, што ні з месца.
Яго халоднае святло
Цячэ на снег, на дрэвы-свечы,
На чалавечае жытло,
Дзе сёння шчодра паляць печы.
Бязважкі іней з правадоў
Сцякае ўніз, дзе слуп ліхтарны
Акрэсліў круг, што шмат гадоў
Адолець ноч імкнецца марна.
Сцюдзёна сёння.
Толькі з нас
Ніхто ў цяпло ісці не мусіць...
Такое ўбачыць можна раз
І то, хіба, на Белай Русі...

***

Калі з таполі тоўстай, што над хатай
Галіны распластала, як шацёр,
Сарвецца іней хмараю бухматай
І шугане лавінаю ў наш двор —

Прыціхне ўсё:
Палкан у будцы цеснай,
Гарласты певень, хітры рыжы кот.
Адразу снегу хопіць ім і месца,
Што дзеляць-не падзеляць столькі год...

І сам не пазнаю сябе сягоння:
Хоць холаду з дзяцінства не люблю,
Ды падстаўляю інею далоні
І, быццам іскры срэбныя, лаўлю!..

**Николай АЛТУХОВ**

## ЗИМНИЙ ЛЕС

**Метелица проносится,**
**Пушиста и светла,**
**По синеватой просеке,**
**Как белая юла.**

**Мороз веселый колется,**
**Трещит в березняке,**
**А мы проходим по лесу,**
**Прильнувшему к реке.**

**Встречает лес сверканием,**
**Приветливым шумком,**
**Как будто он заранее**
**Узнал, что мы придем.**

**Светясь усмешкой доброю,**
**Как хлопотливый дед,**
**Из снегирей подобранный**
**Он выставил букет.**

**Гордясь цветами-птицами,**
**Волшебный исполин**
**Оправил их синицами,**
**Как листьями крушин.**

**Окутал белой пряжею**
**Подарок дорогой.**
**Не оторваться, кажется,**
**От красоты такой.**

**Но некогда простаивать,**
**Костер зари погас—**
**И лес, хрустя суставами,**
**Благословляет нас.**

Фотаэцюд Юрыя ЗАХАРАВА.

**Алег ФОМЧАНКА**

## НАЧНЫЯ ГУКІ ФЛЕЙТЫ

### ГУМАРЫСТЫЧНАЕ АПАВЯДАННЕ

ПРЫЙШОЎШЫ з работы, Васькін у збянтэжанасці зафіксаваў: здарылася нешта незвычайнае. Палавік ля дзвярэй пакамечаны і забруджаны — нібы нехта беспрытульны на ім спаў. Полка для абутку ссунута, ды так, што нават сцяна абабілася. Чорныя расплывістыя, бы дыназаўравы, сляды намертва адбіліся на зялёнай дывановай дарожцы — некалі за ёй Васькін шмат пабегаў, пакуль набыў. Пад нагамі, як на прывакзальнай плошчы,— смецце невядомага паходжання.

«Што, што здарылася? — нервова паміргаў вачамі Васькін. — Мо, злодзеі наведаліся?..»

У задуменні, як заўсёды, не спяшаючыся, ён разуўся і па слядах-адбітках накіраваўся на кухню.

І — о, божа! — што Васькін убачыў. Краса і гонар — румынская пліта заляпана нечым едка-ярка-чырвоным. Гэткія ж плямы на стыках труб: светла-блакітная фарба на іх садрана кавалкамі. Падлога ў тлустых падцёках.

Праз аранжавы туман у вачах Васькін нарэшце прыкмеціў жонку. Яна сядзела на кукішках і заціралa анучай масляністыя плямы.

— Мацуйся, Пеця,— нібы гаворка ішла аб нябожчыку, вымавіла трагічна жонка. — Як-небудзь перажывём.

«Але што адбылося? — марудна думаў Васькін. — Што — перажывём?»

Жонка паспрабавала надаць твару хоць крыху бадзёры выгляд, але нічога не атрымалася. Наадварот — у голасе яшчэ чутней задрыжэлі няўцешна-горкія ноткі.

Чулым носам Васькін улавіў пах валакардзіну і ў роспачы крыкнуў:

— Растлумач, што гэта ўсё азначае?!

Яму не адказалі. А ён раптам суцішыўся, прыкідваючы, што трэба будзе даставаць блакітнай фарбы, каб прывесці ў належны выгляд трубы, недзе выкалупаць дзве кафельныя пліткі, каб замяніць разбітыя ўшчэнт ля газавага крана, а таксама...

— Прымі, прымі валакардзіну, Пецечка,— зноў захвалявалася, заенчыла жонка. — Супакойся, няма ліха без дабра. Затое цяпер можам спаць спакойна.

— Спакойна?

— А то. З газам тым зараз усё ў парадку.

— У парадку?

— І з газавай калонкай... у ваннай...

— І... і там?

Васькін на ватных нагах, адчуваючы ў роце гаркату, зрабіў некалькі крокаў. Пхнуў дзверы і схапіўся ў немачы рукой за вушак, заплюшчыў вочы.

У параўнанні з прыхожай і кухняй, дзе, гаворачы фігуральна, прайшоўся ўсяго ўраган сярэдняй моцы, у ванным пакоі пагаспадарнічаў сапраўдны тайфун.

— Нічога, Пецечка. Наогул газаўшчыкі вельмі мілыя людзі,— сказала яму, як хвораму, жонка і выняла з хатняй аптэчкі лекі. Затым наліла ў шклянку ваду і падала Васькіну: ён расплюшчыў нарэшце вочы.

«Плюс яшчэ тры кафельныя пліткі,— шаптаў сам сабе Васькін,— ды белай эмалі, цэменту з алебастрам...»

— Ай, мамачка родная, зусім з чалавекам дрэнна! — усхадзілася жонка. — І што гэта будзе? Табе, Пецечка, нельга нервавацца.

— І табе,— усё нешта прыкідваючы, спакойна сказаў Васькін і адвёў рукой шклянку — аж вада вылілася.

Больш яны амаль не размаўлялі. Не ўключылі тэлевізар. Рана ляглі спаць.

Прачнуўся Васькін нечакана, быццам ад удару токам. Паляжаў кольвеч нерухома. Тоненька-тоненька недзе гучэла чароўная мелодыя. Нібы пазыўныя — яму, Васькіну.

Ён навастрыў слых: мелодыя не знікала. Наадварот, яе флейтавая ўзнёсласць усё мацнела. Васькін напружана прыслухоўваўся. Ці ўжо не сон які гэта? Не. Непадалёк цурчэла флейта. Разліваўся яе срэбны звон. І Васькін раптам успомніў, падхапіўся: гэта ж на кухні кран цячэ!

Больш заснуць ён не змог, хаця гучала, закалыхваючы пяшчотай, флейта.

Васькін з жахам думаў, што, як ні круці, а яшчэ і сантэхніка трэба выклікаць. Быццам тая мыш, сцішылася, амаль не дыхала, жонка. Флейта і яе біла па вушах.

Трэба, трэба, як ні круці...

